# Веcткі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"*

**Viestki j Paviedamlenni**

Сусьветнае сеціва: *e-krama.com, pahonia.com*
Электронны адрас: *viestki@mail.com*
✉ *P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

**№ 1 (587)**
**Студзень 2015 г.**





## 94-я ўгодкі Слуцкага Збройнага Чыну ў Гайлэнд-Парку



У нядзелю, 7 сьнежня, у царкве Сьв. Маці Божае Жыровіцкае а. Зінові адслужыў паніхіду па змагарах Слуцкага Збройнага Чыну. Затым у залі пры царкве адбылася імпрэза ў гонар 94-х угодкаў Слуцкага Збройнага Чыну, ладжаная супольна Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньнем (БАЗА) у Нью-Джэрзі і Беларуска-Амэрыканскім Згуртаваньнем "Пагоня". Імпрэзу адкрыў старшыня аддзелу БАЗА ў Нью-Джэрзі Юрка Азарка. Ён прывітаў прысутных ад імя сваёй арганізацыі і коратка распавёў пра важнасьць адзначэньня Дня Герояў – Угодкаў Слуцкага Збройнага Чыну для беларусаў на чужыне й на Бацькаўшчыне. Прамоўца спыніўся на асноўных момантах падзеяў таго часу і даў кароткі аналіз тагачаснай міжнароднай сытуацыі. Сп. Азарка падкрэсьліў, што падтрымка дзеяньняў Случчакоў не абмяжоўвалася абшарам Случчыны, але мела месца ў шмат якіх іншых мясьцнах. Нажаль, сытуацыя скалался не на карысьць беларускіх нацыянальных сілаў, але паўплывала на іх далейшую кансалідацыю. Таму сёньня мы з удзячнасьцю ўспамінаем змагароў Случчыны й аддаем ім пашану і даніну павагі.

Затым з прывітальным словам выступіў старшыня Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня "Пагоня" Віталь Зайка. Ён адзначыў, што пэрыяд 1917-20 гадоў зрабіўся вырашальным для лёсу Беларусі. У 1917 годзе прайшоў Усебеларускі Кангрэс – першы ў гісторыі прадстаўнічы форум беларускага народу. У 1918 годзе была абвешчаная незалежнасьць Беларускай Народнай Рэспублікі, зьвіўся першы беларускі ўрад, беларускія вайсковыя адзінкі. У народзе моцніліся нацыянальнае пачуцьцё і прага самастойнага разьвіцьця незалежнага ад Польшчы, Расеі або каго іншага.

***заканчэньне на бачыне 2***

# Сьнежаньскі сход Згуртаваньня “Пагоня”

У нядзелю, 7-га сьнежня, у Гайлэнд-Парку, Нью-Джэрзі, дзе адбывалася сьвяткаваньне 94-х угодкаў Слуцкага Збройнага Чыну, у скарочаным фармаце прайшоў сьнежаньскі сход Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “Пагоня”. Старшыня “Пагоні” сп. Віталь Зайка распавёў пра бягучыя справы арганізацыі і зрабіў аб’яву пра наступны, студзеньскі сход Згуртаваньня “Пагоня”. На сходзе прымеркавана правесьці дабрачынны канцэрт у гонар братоў-украінцаў, якія былі параненыя падчас змаганьняў супраць сэпаратызму і расейскай агрэсіі на Ўсходзе Украіны.

На канцэрце выступіць вядомы паэт, музыка і грамадзкі дзеяч Сяржук Сокалаў-Воюш. Усе сабраныя на канцэрце сродкі пойдуць на лячэньне параненых ва Ўсходняй Украіне. Сп. Зайка такама коратка распавёў для гасьцей пра мэты і прынцыпы арганізацыі “Пагоня”.

**Віталь ЗАЙКА**



## 94-я ўгодкі Слуцкага Збройнага Чыну

***заканчэньне з бачыны 1***

Случчакі, жыхары аднаго з найзаможных і нацыянальна прасунутых беларускіх абшараў, скарысталі час міжуладзьдзя для арганізацыі змаганьня за незалежную Беларусь, за ідэалы БНР.

Прамоўца адзначыў, што сьвяткаваньне Дня Герояў у Беларусі дасюль сутыкаецца зь перашкодамі, якія чыніць рэжым. Сёлета мясцовыя ўлады не дазволілі правесьці памятны мітынг перад домам Вайніловіча, дзе ў 1920 годзе прайшоў Зьезд Случчыны, што абраў Раду і пастанавіў пачаць збройнае змаганьне супраць бальшавікоў. Усе імпрэзы памяці праходзяць у прысутнасьці ўзмоцненых аддзелаў міліцыі. Антыбеларуская ўлада, натуральна, баіцца нацыянальных змагароў.

Падзеі Слуцкага Збройнага Чыну 1920 году назаўсёды ўвайшлі ў гісторыю, хоць гісторыя гэтая, сапраўдная гісторыя Беларусі, дасюль хаваецца ад народу. Ахвярнасьць і змаганьне Случчакоў зьяўляюцца яскравым сьведчаньнем нязгаснага імкненьня беларускага народу да незалежнасьці, яго рашучасьці ў змаганьні за волю.

Потым сп. Аляксандар Солад выступіў з рэфэратам пра Слуцкі Збройны Чын, які абапіраўся на інфармацыю з кнігі выбітнага пісьменьніка Ўладзімера Арлова “Адкуль наш род”.

Слуцкі Збройны Чын паказаў сьвету, што беларусы хочуць жыць у сваёй незалежнай дзяржаве. Таму Дзень Герояў – гэта нашае вялікае нацыянальнае сьвята. Раней ці пазьней яно будзе шырака, на дзяржаўным узроўні, адзначацца ў Беларусі.

Затым удзельнікі імпрэзы мелі абед, пасьля якога выправіліся на могілкі ў Іст-Брансўік. Там з кароткім словам выступіў сп. Віталь Зайка. Адбылося ўскладаньне вянкоў да мэмарыяльнага помніка змагарам за Беларусь і да магілы аднаго з удзельнікаў Слуцкага Збройнага Чыну а. Хведара Данілюка.

**Віталь ЗАЙКА**



Беларусь – Амэрыка: лёсы землякоў

# Мікола Дзямідаў, беларускі вайсковы дзеяч, удзельнік барацьбы за незалежнасьць Беларусі

Беларускі нацыянальны дзеяч, палітык і вайсковец Мікола Дзямідаў (1888-1967) нарадзіўся ў Гарадку на Беласточчыне (па іншых зьвестках – у Ломжы). Ягоная маці, Аляксандара Каліноўская, была ўнучкай брата Кастуся Каліноўскага. Народжаны Мікалай Катнароўскі, ён атрымаў іншае прозьвішча па другім мужу маці.

Скончыўшы гімназію ў Ломжы М. Дзямідаў здаў у 1905 годзе іспыт у Сьвіслацкай настаўніцкай сэмінарыі на настаўніка двухклясных пачатковых школаў. Затым у 1907 годзе паступіў на гістарычна-філялягічны факультэт Варшаўскага ўнівэрсытэту. Адначасна ён працаваў у канцылярыі Прывісьлянскай чыгункі. У1911 годзе Міколу Дзямідава прызначылі загадчыкам чыгуначнай школы ў Беластоку.

Пасьля пачатку Першай сусьветнай вайны Дзямідаў мабілізаваны ў расейскае войска. У 1917 годзе ён скончыў вайсковую школу. Браў удзел у расейскай рэвалюцыі, быў акруговым камісарам у Навагрудку. З сакавіка да лістапада 1918 году ў нямецкім палоне. Арганізаваў беларускія аддзелы ў Вільні. Напрыканцы 1918 году быў у годнасьці паручніка пераведзены ў міністэрства абароны Летувы. Ад сьнежня 1918 году да чэрвеня 1919 году быў камэндантам Горадні. Арыштаваны польскімі ўладамі, сядзеў у ковенскай турме, пасьля быў інтэрнаваны ў лягеры ў Беластоку. У 1919 годзе ўвайшоў у склад Беларускай Вайсковай Камісіі у Вільні.

Расчараваны дзейнасьцю БВК летам 1920 году М. Дзямідаў (у час бальшавіцкага паходу на Варшаву) уступіў у войска генэрала Станіслава Булак-Балаховіча. Генэрал даверыў яму фармаваньне Асобнага беларускага батальёну. Набраныя Дзямідавым дабраахвотнікі паходзілі зь Беласточчыны. Батальён налічваў каля 700 штыхоў (у тым ліку 26 афіцэраў). У складзе астроўскага пяхотнага палка 2-й пяхотнай дывізіі 10-14 лістапада браў удзел у зацятых баях за Калінкавічы, 21 лістапада ўдзельнічаў у баях над Прыпяцьцю. Са сваім батальёнам працягваў барацьбу таксама пасьля адступленьня арміі Булак-Балаховіча на кантраляваную палякамі тэрыторыю. Вёў баі да студзеня 1921 году.



Мікола Дзямідаў меў намер злучыць свой батальён зь 1-й Слуцкай брыгадай стральцоў, якая ў канцы сьнежня 1920 году перайшла на польскі бок фронту, і з камандваньнем якой ён падтрымоўваў сувязь. Польскае кіраўніцтва спачатку пагадзілася аказаць дапамогу, але ў выніку ўмяшаньня С. Булак-Балаховіча і намесьніка старшыні Беларускага Палітычнага Камітэту Паўла Алексюка, якія абвінавачвалі Міколу Дзямідава ў намеры заняць пасаду Начальніка Беларускай дзяржавы і ў антыпольскасьці – у такой дапамозе было адмоўлена.

Пасьля баёў з бальшавікамі ў студзені 1921 году батальён перайшоў на польскі бок фронту і быў інтэрнаваны ў Радаме. Гэты, узначалены Дзямідавам батальён, стаў апошняй беларускай вайсковай адзінкай, што ў адкрытым баі змагалася супраць бальшавіцкага рэгулярнага войска.

Мікола Дзямідаў напачатку 1920-х гадоў настаўнічаў у Гарадку і быў абраны паслом у польскі Сойм. Потым Дзямідаў, дзеля антыбеларускай палітыкі польскіх уладаў, змушаны быў выехаць у Латвію, дзе вёў нацыянальную працу ў Дзьвінску разам з Кастусём Езавітавам. У 1940 годзе Дзямідаў быў арыштаваны савецкімі ўладамі і да 1941 году зьняволены ў Маскве на Лубянцы.

У 1941 годзе яму ўдалося вызваліцца, калі вазілі на перасуд. У 1941-44 гадох Дзямідаў быў інспэктарам беларускага школьніцтва ў Латвіі й Беларусі. Працаваў выкладчыкам у батальёне Беларускай Краёвай Абароны. Быў адкамандзіраваны на працу ў Мабілізацыйным аддзеле Галоўнага кіраўніцтва вайсковых справаў і Аддзеле апекі над бежанцамі Беларускай Цэнтральнай Рады.

Мікола Дзямідаў быў адным з ініцыятараў скліканьня Сабору Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы (БАПЦ) у Канстанцы ў 1948 годзе і дзеячам аднаўленьня БАПЦ пасьля адыходу Беларускага епіскапату да Расейскай Замежнай Праваслаўнай Царквы.

У 1950 г. Мікола Дзямідаў выехаў у Амэрыку і напачатку пасяліўся ў Лансінгу ў штаце Мічыган, але неўзабаве пераехаў у Чыкага. У тым самым годзе стаў сябрам кіраўніцтва Беларуска-Амэрыканскай Народнай Рады (БАНР), адзінай арганізацыі старой беларускай эміграцыі, якая прымала новых палітычных эмігрантаў.

З 1950 году Мікола Дзямідаў вёў таксама беларускія радыёперадачы ў Чыкага. Ён быў актыўным дзеячам Згуртаваньня Беларусаў штату Іліной, што было заснаванае ў 1953 годзе дзеячамі, што былі нязгодныя з палітыкай БАНР.

М. Дзямідаў быў адным з заснавальнікаў беларускай праваслаўнай парафіі Сьв. Юр'я ў Чыкага і першым рэгентам хору гэтай парафіі.

Пазьней Мікола Дзямідаў далучыўся да беларускай грэка-каталіцкай парафіі Хрыста Збаўцы ў Чыкага і быў адным з найбольш актыўных яе парафіянаў.

Апошнія гады жыцьця Міколы Дзямідава прайшлі ў Лансінгу, Мічыган, дзе ён памёр у 1967 годзе. Пахаваны ў грэка-каталіцкім абрадзе на могілках у Чыкага.

Дзейнасьць М. Дзямідава падчас змаганьня за беларускую дзяржаўнасьць у 1920-я гады ёсьць адною з яркіх, але мала вядомых старонак нашай гісторыі, якая чакае яшчэ на сваё належнае дасьледаваньне і ўшанаваньне.

**Віталь ЗАЙКА**

# “Галгатня пра ЗыШыА”

## Люблю любіць, любіць прыемна

Ня так даўно дык хоць нейкі выбар яшчэ быў, ну скажам, паміж колай ці пэпсі, сьнікерсам ці марсам, чырвонай пілюляй і сіняй. Але эпоха перахадной дэмакратыі ў далёкім мінулым. Цяпер ужо дазволена толькі любіць, або… або разьлюбіць, але галоўнае тое, што ні за што на сьвеце ўжо нельга “не любіць”.

Да новай эпохі нас пасьпяхова прывучае фэйсбук. У фэйсбуку ўсе мы “юзэры”, быццам ад слова карыстальнікі, але па сугучнасьці ад слова лузэры, якіх Цукербэрг фармальна пагадзіўся прызнаць “людзьмі” даслоўна некалькі дзён таму. Статыстычны лузэр ставіць добры дзясятак, мо і болей, лайкаў у дзень. Любіць ня цяжка. Складаней тым, у каго ажно рукі сьвярбяць ад жаданьня паставіць “дыслайк”, але такая магчымасьць у іх адабраная раз і назаўсёды. Найбольш што такі лузэр можа сабе дазволіць, дык гэта клікнуць “анлайк” (адмяніць упадабанае раней), але спэцыфіка гэтай адмены ў тым, што яна так і застаецца ананімным пратэстам. Тое, што ты нешта адпадабаў, ведаеш звычайна толькі ты сам, ну хіба што нейкі іншы лузэр-вар’ят, што сядзіць і адсочвае колькасьць атрыманых упадабаньняў у рэжыме анляйн і заўважыць, што адным лузэрам у карыце ягонага эга стала меней. У выніку чалавек пратэстуе супраць сябе самога, выказвае сваё права “не любіць нешта” абстрактнае, але ня права “не любіць штосьці” канкрэтнае. Амаль філязофская хітрасьць таго, хто гэта задумаў!




А што з тымі, хто хацеў бы выказаць недавер да чарговай спасылкі на дэбільнае відэа з коцікам, нязгоду з найноўшым кліпам бяздарнай Джэніфэр, скепсіс у сувязі зь “міжнародным днём нулявой талерантнасьці да акалечваньня жаночых геніталіяў” (калі хто цікавіцца – адзначаецца гэтае цуда 6-га фіўраля)? Людзішкі, якім уздумалася сказаць “не” павінны, як зараз модна казаць, забіцца аб сьценку, бо для іх у эры лібэралісцкага фашызму створаны новы панятак – “zero tolerance for intolerance”. Любіце, любеця, любуйцеся, цешцеся, усьміхайцеся, кайфуйце. Kumbaya my lord, kumbaya. Забудзьцеся на нязгоду і гнеў, адганіце нялюбасьць, на слова “нянавісьць” нават забудзьцеся. Калі моцна прыцісне, што-небудзь пагуглюйце, напішыце эмэйл, клікніце “падзяліцца”. У крайнім выпадку падпішыце пэтыцыю за вызваленьне макакі з заапарку, за ўзьяднаньне ўсіх рэлігій на сьвеце ці за скасаваньне сьмяротнага пакараньня падчас вайны. Ну а калі вы зьехалі з глузду канчаткова, то падпішыце пэтыцыю хоць і супраць сябе самога. Па любому пэтыцыя і так заўсёды толькі адна – за адну мазгавую ізьвіліну, ды тую каб у форме вялікага пальца.

***Віталь ВОРАНАЎ***



Падчас лютаўскага сходу Згуртаваньня “Пагоня” **14-га лютага 2015 году** адбудзецца дабрачынны канцэрт вядомага беларускага пісьменьніка, паэта і барда **Сяржука Сокалава-Воюша**, збор ад якога пайдзе на дапамогу ўкраінскім жаўнерам і патрыётам, параненым у вайне на Данбасе.

Калі ласка, дапамажыце распаўсюдзіць інфармацыю і запрашайце на канцэрт знаёмых і блізкіх. **Жыве Беларусь! Слава Ўкраіне!**

Шаноўныя сябры!

Разам са студзеньскім нумарам “Вестак і Паведамленьняў” кожны падпісчык бюлетэня ў якасьці падарунка за сваю прыхільнасьць атрымае насьценны **каляндар Згуртаваньня “Пагоня”** на 2015 год.

Тыя сябры, хто не выпісваюць бюлетэнь, могуць набыць каляндар, даслаўшы ліст ў рэдакцыю па пошце ці на емэйл **viestki@mail.com** або завітаўшы на старонку **e-krama.com**

### Уплаты ў Згуртаваньне

Складкі й ахвяраваньні:

**С. Голуб .......................60**
**С. Козыраў ..................60**
**К. Ліпская ...................60**
**В. Саўчанка .................60**
**Усім шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў аддзел шліце на адрас:**

*P. O. Box 572*
*New York, NY 10113*

**Чэкі выпісвайце на імя**
*Viktar Yedzinovich.*

## Наступны сход

**Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “ПАГОНЯ”**

адбудзецца ў суботу **17 студзеня 2015 году** на Мангэтане па адрасу:

***Seafarers and International House***
***123 East 15th Street***
***New York, NY 10003.***

*Даезд цягнікамі падземкі **L, N, Q, R, W, 4, 5, 6** да прыпынка **Union Square**. Будынак знаходзіцца адзін блёк на ўсход ад **Union Square** па **15-й вуліцы** на скрыжаваньні з **Irving Place**.*

***Заля на другім паверсе.***
Пачатак: **а 6:00-й** вечара.

**Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:**

**С. Козыраў ..................30**
**Шчыры дзякуй!**

*Падпісацца на бюлетэнь могуць усе зацікаўленыя даслаўшы аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*

***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***

*Чэкі з адзнакаю **“Весткі”** выпісвайце на імя скарбніка Згуртаваньня “Пагоня” **Viktar Yedzinovich**.*

*Падпіску таксама можна аформіць, наведаўшы ў інтэрнэце старонку **www.e-krama.com***